# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1560) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 6 КРАСАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.




**Спявае мужчынскі хор з Гайнаўкі — першае месца сярод вялікіх калектываў у фальклорнай апрацаванай песні.**

Цэнтральны агляд „Беларуская песня-86", які праходзіў 1 сакавіка г.г. у зале кінатэатра „Форум" у Беластоку, меў усе якасці належна падрыхтаванай і праведзенай на высокім узроўні імпрэзы. Адкрыў яго намеснік старшыні Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ Я. Зенюк і падкрэсліў, што гэты, ужо 17-ты агляд у гісторыі конкурсу „Беларуская песня", прысвячаецца юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы". Затым пазнаёміў слухачоў з асноўнымі напрамкамі дзейнасці і найбольш паказальнымі дасягненнямі нашай арганізацыі, увёў слухачоў у тыя абставіны, калі ў 1969 г. пачаў разгортвацца ўшыр і ўглыб конкурс „Беларуская песня", які адкрываў для беларусаў і іншых нацыянальнасцей чароўную красу беларускіх песень. З бегам часу са скромненькіх аглядзікаў жменькі спевакоў перад невялічкай грамадкай слухачоў конкурс „Беларуская песня" вырас у велічную імпрэзу, праўдзівы фестываль беларускай мелодыі і слова. Колькі соцень невядомых датуль народных спевакоў выявіў і падняў на сцэну ён і колькі соцень тысяч слухачоў усхваляваў да слёз прыгажосцю нашага роднага, беларускага! Так, ёсць аб чым паразважаць, задумацца і адкуль пачарпнуць здаровага аптымізму, асабліва цяпер, калі з розных бакоў даносяцца лямангы і галашэнні над нібыта наступаючым выраджэннем усяго беларускага на Беласточчыне...

Але трэба пакінуць на потым роздумы, бо на сцэну ўваходзяць прэзентабельныя і заслужаныя для беларускай культуры Валянціна Ласкевіч — старшыня Беластоцкага аддзела БГКТ і Мікалай Бушко — член Прэзідыума ГП БГКТ. Яны спраўна і энергічна павялі агляд, а на наступны дзень — юбілейны канцэрт лаўрэатаў.

## 100 песень 200 выканаўцаў!

Выступленні спевакоў ацэньвала журы пад старшынствам Анджэя Дырдала — намесніка дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы, членамі журы былі: Ян Бондар — выкладчык Вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку; Эльжбета Гордан — выкладчык Вышэйшай музычнай школы ў Беластоку; Мікалай Гайдук — намеснік галоўнага рэдактара „Нівы" і Лявон Томчык — настаўнік сярэдняй музычнай школы ў Беластоку.

Першымі на сцэну выйшлі Лідзія Янчук і Галіна Карбоўская з Беластока. Мабыць, якраз з лёгкай рукі Л. Янчук, якая потым, у кулуарах, не змагла паўстрымаць прызнання, што беларускай песні аддае яна ўсё сваё сэрца, увесь агляд праходзіў ва ўзнёслым настроі. У кожным выступленні адчувалася сур'ёзнасць і адказнасць, а хваляванне, якое міжвольна спадарожнічае такому настрою, дадавала спевам асаблівы адценак гучання, узмацняла яго ўздзеянне на слухача.

Якраз ужо з першага выступлення стала ясна, што і гэты агляд узбагаціць нас новымі знаходкамі беларускіх народных песень з Беласточчыны, бо беластоцкія спевакі вывелі на сцэну дзве невядомыя дагэтуль фалькларыстам песні, звонкі жаночы хор з Агароднікаў на Бугу (каля Драгічына) — таксама дзве, па адной невядомай — жаночы квартэт з Тымянкі гм. Нурэц, жаночы хор з Дабрывады гм. Кляшчэлі, трыо з Тыневіч, а таксама мужчынскі хор з Рыбалаў, які да таго выканаў новы твор свайго харыста М. Ігнацюка.

Глыбокае зацікаўленне беларускай песняй, творчыя пошукі яе невядомых або малавядомых у нас кампазіцый уласціва было таксама выканаўцам апрацаванай фальклорнай песні і сучаснай беларускай песні. І выступалі людзі розных узростаў і асяроддзяў: ад васьмідзесяцігадовай Надзеі Грыцук з Навасёлкаў гм. Гарадок да равесніц гэтага ж агляду — 16-17-гадовых вясёлых скакушак-рагатушак з „Дзявочых нотак" з Бельскага беларускага ліцэя, ад ветэрана многіх франтоў апошняй вайны Юркі Налівайка з Гарадка да выкладчыкаў сярэдніх і вышэйшых школ, інжынераў з Гайнаўкі, Гданьска. Аднак асноўную базу беларуская песня мае ў вёсках і мястэчках Бельшчыны і Гайнаўшчыны — з гэтай невычэрпнай жыватворнай крыніцы паходзіць найбольш яе самых арыгінальных твораў і адароных выканаўцаў.

Радуе кожнае беларускае сэрца тое, што якраз паўднёвая частка Беласточчыны становіцца з кожным годам усё больш расспяванай, але вельмі смуціць, што адначасова з тым моўкне і глухне паўночная яе палова. Актыў і працаўнікі БГКТ павінны глыбока задумацца і прыняць належныя меры, каб разварушыць беларускае асяроддзе, што знаходзіцца на поўнач ад ракі Супраслі, — адтуль не пачуўся ніводзін голас на аглядзе! Таксама надта ж красамоўныя ды сыплючыя, бы з рукава, усё новымі прапановамі, актывісты Варшаўскага аддзела БГКТ набралі вады ў рот

(Працяг на стар. 4)

**БЕЛАВЕЖА**

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 322

*

І зноў вясна курaслепамі
белымі
сардэчна цалуе
маё вяртанне

кветкі альхоўнікаў
што ў глыбіні сэрца
як слёзы маці
цвітуць
папрокам.

**М. Базылюк**

## ХРАМ У ЧЭРМНАЙ

*Вось храм, дзе чэрапы людскія*
*Са сцен, са столі, з алтара*
*Глядзяць праз вочніцы тупыя,*
*Як совы ў цёмных гушчарах.*

*Як кажаны дзесь у пячоры,*
*Абселі кожны цаль сцяны*
*І спяць бяздумна і ў пакоры,*
*І нават ім не сняцца сны.*

*Сны аб усім, што іх спаткала,*
*Што прывяло іх аж сюды,*
*Аб слёзах, голадзе, аб джалах*
*І аб раскошах маладых.*

*Сны аб насіллі, аб пажарах*
*У час набегаў і вайны,*
*І аб радзімых янычарах,*
*Караўшых смерцю без віны.*

*Сабралі ўсіх іх з навакolля*
*З загубленых вайной магіл.*
*Ніхто не помніў іхняй долі,*
*Ні іх патомных кроўных жыл.*

*Мо не адзін і з іх быў катам,*
*Можа між імі быў бандыт?*
*А тут з ахвяраю, як з братам,*
*Супольны іх злучыў граніт.*

*Калісь для помсты, альбо хлеба*
*Іншым неслі смерць і жах.*
*А тут нічога ім не трэба,*
*Не мучыць іх цялесны прах.*

*Мо частка плакала ад гора*
*І праклінала цяжкі лёс,*
*А тут вякі два ў гэтым зборы*
*Храм ім усім спакой прынёс.*

*Ніхто не знае іх учынкаў —*
*Скрыў іх даўно пыл забыцця.*
*Яны, як крохкія лічынкі,*
*Цаны не ведалі жыцця...*

*І толькі будаўнічы храма*
*Сваё імя тут падарыў,*
*І даў ім чэрап свой са шрамам,*
*Які спачыў пры алтары.*

**Д. Шатыловіч**



**Архангел.** Мікола Давідзюк. 1980 г. Алей. 130х89.
Фота В. Мацяеўскага.

*

з імглы начной
з бурай апыленай пустыні
ўсплываюць джунглі
ўражанняў непраходныя
сакавітая маляўнічая
здань існавання
вяшчун зялёнай травы
пахучай мацыёлы...
сон

**Я. Шостак**



**Шлях.** Графіка Уладзіслава Петрука. 1986 г.

### У ВОЧЫ ГЛЯНУЦЬ

Пакіньце радасці дарогу,
Шукайце ў роспачы цяпла.
Каб не вярталася з трывогай
У бляску яркага святла.

Даруйце слабасці хвіліны
У снах жывога забыцця.
Бо час, вырваны з каляіны,
Снуецца сеткаю жыцця.

Вярніце вуснам смех жарлівы,
Той жыватворны смех-ручэй.
Каб быў для кожнага шчаслівы
І біў іскрынкамі з вачэй.

Дазвольце сэрцу ў вочы
глянуць.
Ускалыхнуць струной душы,
Каб засвяцілася, як ранак,
І шчасцем песціла ў цішы.

**Л. Танкевіч**




## ТАКІ ЛЁС

Пякучы боль з левага боку грудзей на хвіліну паралізаваў цела. Збаўчая бар'ерка. Каб не яна, паляцеў бы ўніз метраў на дзесяць. Мільганула жыццё, як на кінастужцы. Праўда, што калі чалавек стаіць на мяжы жыцця і смерці, бачыць усё сваё жыццё. Не думаў, што такі будзе яго канец, хаця спадзяваўся чакаў тае атакі ўласнага сэрца. Але тут? На віядуку? Спяшаючыся, як штодзень, на аўтобус? Не, гэтага не ўяўляў. І што ў гэтым горадзе, чужым, хоць пражыў у ім ужо 20 год.

З далёкай беларускай вёскі лёс прыгнаў яго сюды на пабярэжжа мора, на граніцу вялікай прасторы, аб якой так марыў, будучы яшчэ малым, бестурботным хлапчанём. Лёс прыгнаў, ці сам накіраваўся на такія дарогі? Сам выбраў гэты прыбалтыйскі горад? Цяпер не разбярэш, што было прычынай. Можна сказаць, што жыццё споўнілася. Ад зялёных палёў Бацькаўшчыны, ад зычлівых беларускіх людзей Беласточчыны прыйшоў да мітусні партовага горада, з усімі праблемамі якімі жылі тыя, што міналі яго цяпер, спяшаючыся на работу.

Пражыў сваё жыццё, як умеў І хацеў бы яшчэ пажыць. Бо з жыццём ніколі не хочацца расставацца... І з той думкай асунуўся на ступенькі ўсходняў. Хуткая дапамога пад'язджала з віскам, але ён ужо гэтага не чуў...

**М. Махнацкі**

### НІКІФАР

Без прозвішча, без года
нараджэння
Пражыў жыццё Нікіфар.
Ён у малюнкі пераліў
імкненні,
Па смерці стаўся міфам.

Лэмкоўскае старонкі
маляўнічасць
Яго запаланіла,
І чэрпаў з жыватворчае
Крыніцы
Натхненне, вобраз, сілы.

І, зносячы жабрацкія
варункі,
Пад сваім родным небам,
Турыстам каляровыя
малюнкі
Дарыў за лусту хлеба.

Ды не памерла творчая
ідэя
І сэрца жар няспынны:
Цэняць, як скарб,
сусветныя музеі
Нікіфара карціны.

**В. Швед**

### ВЯЧЭРА

Маці закружыла жорны
хлебадайны млын
а бацька рукавы закасаў
засыпаў зерне
і сталі кругам прабіраць
прасеўку нацягаць
вось гэта хлеб
талкуе маці
яго заўсёды мала
яго вам трэба шанаваць
яму і гонар і хвала
ён стаў расці ў вачах маіх
уцякаць з дзяжы
у бляшку з ім
і ў печ усаджу
і ўжо пахучую свежую
адрэзаў скібку я на пядзю
вялікую як сон вячэрні
і сеў пры кубку малака
такая была вячэра.

**У. Саўчук**

### СЕВІЛЛЯ

белы горад у сонцы
асляпіў мяне дрыжу
белы горад дрыжыць і дзьме
мне ў твар зялёным
ветрам жоўтым ветрам
ветрам чырвоным
дзьму ў твар беламу гораду
смехам, што дрыжыць ува мне
дрыжыць ува мне Фэдэрыка
і гладзіць марозным пальцам
мае папараныя сонцам губы
белы горад дрыжыць ува мне

**М. Лукша**

*

Калі
зорка ўпершыню
пачала свяціць
сонейка грэць
птушка спяваць —
чалавек упершыню
пачаў усміхацца

**І. Свентахоўская**

(Працяг са стар. 5)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

ра", — чытаем у Галіцка-Валынскім летапісе. І зразумела, Даніла быў адступнікам ад дадзеных у 1246 годзе абяцанняў хану Батыю, ён жа ваяваў у 1256 г. татарскія ўладанні на Кіеўшчыне, а потым шукаў дапамогі супраць Бурундая ў Польшчы і Венгрыі — не мог ён разлічваць на татарскую ласку, а хутчэй за ўсё павінен быў спадзявацца смяротнага пакарання. Таму замест караля павёў галіцка-валынскую армію на Вялікае княства Літоўскае ягоны брат Васілька.

На вестку пра набліжэнне татарскай арды і галіцка-валынскіх войск наступіла аб'яднанне ўнутраных сіл у Вялікім княстве Літоўскім. Былі абясшкоджаны прыхільнікі збліжэння з Галіцка-Валынскай Руссю, якіх узначальваў князь Раман Данілавіч. Са згадак у розных летапісах можна меркаваць, што распраўляліся з імі манах Войшалк і полацкі князь Таўцівіл і тады ад іхніх рук загінуў каралеўскі сын Раман Данілавіч. Адначасова з ліквідацыяй унутраных ворагаў, была хутка і спраўна створана абарона, бо захопнікі не здолелі „зваяваць" усю дзяржаву. Яны пранікл і толькі ў яе паўднёва-заходнюю частку („землю Литовскую и Нальщаньску") і ў Яцвягію і вялікай шкоды не зрабілі.

Затое нашаму Пабужжу і Панароўю гэтае нашэсце прынесла вялікія знішчэнні. З летапісных дадзеных вынікае, што брата Васілька з асноўнай часткай галіцка-валынскіх войск Даніла правёў да Бярэсця, за якім тады ўжо пачыналася тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага. Васілька адтуль накіраваўся проста на поўнач, у Літоўскую зямлю, і шлях яго арміі вёў па ўсходняй частцы сённяшняй Беласточчыны. Гэта недзе тут магчыма на пераправе праз Нарву або Нёман, напаткаў ён абарымаў ад татарына пахвалу, здабычу Бурундаю", за што атрымаў ад татарына пахвалу Значыць, галіцка-валынскія войскі прыняло насельніцтва нашых зямель як ворагаў, захопнікаў, а яны аднесліся да яго, як да чужога.

У тым часе Даніла падаўся ў Мельнік і там чакаў весцяў з Вялікага княства Літоўскага. Дакладна невядома, ці ён захапіў Мельнік, ці гэтыя крэпасць і порт былі раней здабыты галіцка-валынскімі князямі. Але нават мірнае „стаянне" войск абазначала тады рабунак воямі мясцовага насельніцтва ды гвалты над ім.

А весткі з Вялікага княства Літоўскага прыходзілі да Даніілы вельмі сумныя: краіна заўзята баранілася, не было вялікіх перамог і да таго бясследна загінуў князь Раман Данілавіч. Таму Васілька, ездзячы і ваюючы разам з Бурундаем, разбураў „землю Літоўскую і Нальшчанскую" ды шукаў свайго пляменніка Рамана.

Калі ж Бурундай, а з ім і Васілька, перайшлі „ваяваць" на поўначы, на пошукі сына кінуўся Даніла. Да яго дайшла вест-

(Працяг на стар. 7)



# ПЛАЧ НАД ЗЯМЛЁЮ

Гляджу я на своеасаблівую карту Беласточчыны, на якой крыжыкамі, кропкамі і рыскамі абазначаны размеры пераходу зямлі-карміцелькі ад гаспадароў-аднаасобнікаў у дзяржаўны фонд на працягу мінулага дзесяцігоддзя. Гляджу я на гэтую карту і адчуваю сябе, як на хаўтурах у кагосьці блізкага мне. Крыжыкі, якія тут абазначаюць, што ад 20 да 25 і болей працэнтаў сялянскай зямлі перайшло ўжо ў дзяржаўны фонд, асабліва згушчаюцца на тэрыторыі гмін: **Гарадок, Заблудаў, Міхалова, Крынкі, Шудзялава, Нараў, Нараўка, Белавежа, Нурэц-станцыя і Мельнік.** Без вайны, агню і маровага паветра ўсходняя прыгранічная паласа Беласточчыны паволі, але паслядоўна ператвараецца ў бязлюдную пустэчу, з якой невядома што рабіць!

Прыгледземся ж да фактаў. Калі на дзень 1 студзеня 1986 года дзяржаўны фонд зямлі ў Беластоцкім ваяводстве складаў дакладна 27 тысяч 322 гектары, дык звыш 82 прац. гэтай безуласніцкай зямлі знаходзілася на тэрыторыі 24 усходніх і паўднёвых гмін Беласточчыны. У пяцігодцы 1979-83 гэты куток нашай краіны пакінула назаўсёды звыш 25 тысяч яго карэнных жыхароў. Але аж 79 прац. сярод гэтых эмігрантаў — гэта ўцекачы з усходніх і паўднёвых гмін Беласточчыны. З Бельскай гміны выехала амаль 12 прац. яе пастаяннага насельніцтва, з Сакольскай — 8 прац., з Нараўскай — амаль 7 прац., Дуброўскай і Заблудаўскай — звыш 6 прац., а з Гарадоцкай — 5,3 прац.

Чаму людзі ўцякаюць ад родных гнёздаў, як ад нейкай заразы?

На жаль, аўтары апрацоўкі, падрыхтаванай на апошнюю сесію Ваяводскай рады нарадовай, якая адбылася ў Беластоку 27 лютага г.г., не шукаюць задавальняючага адказу на гэтае асноўнае пытанне. Вядома, аднак, што ніякі чалавек не ўцякае ад лепшага ў горшае. Народная ўлада, за якую сэрцам і грудзьмі сталі заўсёды нашы людзі, дала ім поўную свабоду выбару свайго шчасця. Дык чаму ж ім не пакарыстацца гэтай свабодай? Адплываюць тады сялянскія дочкі і сыны ў магістры ды інжынеры, у лётчыкі і афіцэры. Народ наш заўжды славіўся талентам і працавітасцю. Дык чаму ж яму не пакарыстацца грамадскім павышэннем?

Хопіць узяць у рукі першуюлепшую штодзённую газету. Вялікія аб'явы маняць здаровых юнакоў і дзяўчат у шахты, абяцаюць зарплату, аб якой ім ніколі не снілася, ды яшчэ вялікую дапамогу на загаспадаранне і дадатак за разлуку з сям'ёй ды бясплатнае закватэраванне ў інтэрнаце.

А ў бацькі на гаспадарцы — бесканечная калатня ад світання да захаду сонца. І пастаянна чагосьці не хапае. Ды аплат розных накапляецца пастаянна столькі, што аж у галаве закружыцца. Пазямельны падатак — падарак у гэтых, адпрацаваўшых свой век, пастарэлых сялян найчасцей у вёсцы няма. Зямля ў замен за пажыццёвую пенсію ідзе ў дзяржаўны фонд, практычна становіцца яна бясхпанскай, якой ніхто не хоча. А зямля любіць ласку і дбайны падыход, бо інакш не адплаціць узаемнасцю, не парадуе ўраджаем.

Толькі пры поўнавартаснай сям'і можна мець надзею на поспех у гаспадарцы. А якія шанцы мае малады чалавек, каб у вёсцы знайсці сабе сяброўку жыцця?

Сярод моладзі ва ўзросце 20-24 гады, значыць, ва ўзросце, які найбольш адпаведны, каб жаніцца і выходзіць замуж, засноўваць сям'ю, толькі 31 дзяўчына прыпадае на сто хлопцаў. Гэта, вядома, адносіцца да тэрыторыі тых жа 24 гмін ва ўсходняй і паўднёвай Беласточчыне, дзе кожны трэці вясковы хлопец астаецца без шанцаў на жаніцьбу. Недахоп кандыдатак у жонкі адчуваецца яшчэ болей з узростам. Сто хлопцаў ва ўзросце 25-29 гадоў мае да выбару ўжо толькі 19 дзяўчат-аднагодкаў, а ва ўзросце 30-34 гады, калі празвініць ужо амаль апошні званок, каб заснаваць сабе сям'ю, шанцы на гэта зводзяцца амаль да нуля, бо на 100 нежанатых мужчын звыш трыццаткі прыпадае ўжо ледзь 12 незамужніх жанчын у гэтым жа ўзросце. У дакуменце, з якога я бяру ўсе гэтыя сумныя лікі, сцвярджаецца:

*„Рэгрэс насельніцтва ва ўсходнім раёне ваяводства выкліканы міграцыяй, паглыбляе адмоўны на працягу многіх гадоў натуральны прырост насельніцтва".*

Перакладаючы сказанае на болей зразумелую мову, трэба ведаць, што ад нейкага часу больш людзей памірае ў нашых вёсках, чымсьці родзіцца. *„Дэмаграфічны прагноз да 2000 года,* — чытаем у гэтым жа дакуменце, — *прадбачвае далейшы ўрон рабочай сілы ва ўсходніх раёнах ваяводства..."*

плаці, страхоўку за сябе, за жывёлу, будынкі і ўраджай — плаці, за меліярацыю, водаправод, электрыфікацыю, за вадзяную суполку — плаці... За плугі і бароны ды за іншыя машыны і тавары, за трактар — плаці...

Дык ці не лепш пайсці на гатовае? Там жа і на працы не перапрацуешся і пасля змены — пан ты сабе самому ды галава табе не баліць, што гніе сена або збожжа, што жыта не скошана, бо гурткоўскі трактарыст запіўся і ў дамоўлены час не прыехаў...

Такім вось чынам старэюць нашы вёскі. Дажываюць у іх свой век тыя сяляне, якім у жыцці асталася ўжо адна недалёкая дарога — з роднай хаты на вясковыя могілкі. У гміне Крынкі і Шудзялава кожны трэці жыхар размяняў ужо сёмы дзесятак свайго жыцця, у гміне Бельск Падляшскі амаль 29 прац. насельніцтва ўвайшло ўжо ў свае сямідзесятыя ўгодкі, у гміне Міхалова амаль 27 прац. насельніцтва перакрочыла мяжу сваіх прадукцыйных магчымасцей, у гмінах Нараўка і Нарва гэты паказчык складае 26-28 прац. Сваіх пераймальнікаў гас-




# Чырвоныя і белыя

Прайшло крыху часу, пакуль полымя пралетарскай рэвалюцыі са сталічнага Піцера дакацілася ў Казанскую губерню, дзе ў горадзе Чыстопаль ад 1915 года жыла ў бежанцах сям'я Мірона Акоцюка з вёскі Рагачы. Было іх пяцёра: маці з бацькам, два сыны і дачка.

— Жылі мы на самым беразе ракі Камы, — успамінае Антон Акоцюк. — Вуліца так і называлася Набярэжная. Мне тады было 11 год. Памятаю, завёў я сяброўства з дзецюкамі нашага суседа, татарына. Мы разам бегалі на вялізную гару, якая ўзвышалася над ракою Кама і з якой распасціраўся найцудоўнейшы краявід на гэтую раку ды на цэлае наваколле. А па Каме кожны дзень плылі параходы. Цікава было нам, дзецюкам, праводзіць іх вачыма. Тады я ўспамінаў свае родныя старонкі, якія пакінулі мы ўлетку 1915 года, уцякаючы ад кайзераўскіх, нямецкіх захопнікаў. Мінаючы гэтую прыкамскую гару, — адзначае Антон Акоцюк, — параходы абавязкова неяк трывожна сігналілі...

І так праходзіла іх незавіднае жыццё сярод чужых, але спагадлівых людзей. Бацька неяк здабываў сродкі для ўтрымання жонкі і дзяцей, Антон хадзіў у школу, папаўняў сваю скромную грамату, здабытую ў царкоўна-прыхадскім вучылішчы ў Рагачах. Вялікія рэвалюцыйныя ідэі праходзілі неяк побач іх, хаця яны тут разліваліся шырокай плынню, як рака Кама ў час веснавога паўнаводдзя. То ж у Казанскім універсітэце атрымаў адукацыю **Уладзімір Ільіч Ульянаў,** якога пазней цэлы свет спазнаў як **Уладзіміра Леніна** — стваральніка і правадыра першай у гісторыі чалавецтва краіны з уладай рабочых і сялян. Ад Казані і Чыстопаля, плывучы найперш па Каме, а затым па Волзе, хутка можна дабрацца і колішняга Сімбірска, які цяпер называецца **Ульянаўск** і ў якім нарадзіўся ды правёў сваё юнацтва пазнейшы правадыр пралетарыяту.

Паводле захаваных дакументаў савецкая ўлада ў Казані была ўстаноўлена 8 лістапада 1917 года. Гэты самы тэрмін (з нявялікімі ваганнямі) можна аднесці таксама і да Чыстопаля, дзе ў час рэвалюцыі жыла сям'я рагачоўскіх Акоцюкаў.

У памяці Антона Акоцюка гэты перыяд яго юнацтва адлюстраваўся больш-менш так:

— Насталі цяжкія дні. Не хапала яды. Бацька аднекуль раздабыў крыху збожжа. Трэба было яго добра высушыць, каб пазней змалоць у жорнах на муку. Хаты ў гэтым горадзе, асабліва на вуліцы Набярэжнай, былі крыты пераважна драніцамі

Дык што нам рабіць?

Аб усім гэтым ішла гаспадарская гаворка ў час гэтай жа сесіі ВРН. Радныя разглядалі асноўную праблему: становішча і напрамкі гаспадарання зямлёю ў Беластоцкім ваяводстве. Прынялі яны перспектыўны план дзеяння да 1990 года, у якім, між іншым, прадбачваецца, што для належнага выкарыстання зямлі неабходна заснаваць новыя дзяржаўныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, значыць ПГРы, у наваколлі Мельніка, Нурца, Гарадка і Нараўкі. У іншых раёнах ваяводства, напрыклад, у Бельскай, Крынкаўскай, Нараўскай ці Кляшчэлеўскай гмінах, выпадаючую з прадукцыі сялянскую зямлю маюць абавязак пераймаць ужо існуючыя ПГР-ы і спулдзельні прадукцыйныя.

Адначасова ствараюцца вельмі ж спрыяльныя ўмовы для тых маладых людзей, якія захацелі б звязаць свой лёс з вёскай і рашыліся б купіць сабе тут гаспадарку або пераняць яе ад сваіх бацькоў. Цану на дзяржаўную зямлю ва ўсходніх раёнах Беласточчыны начальнікі пасобных гмінаў маюць права знізіць да сімвалічнага мінімума. Купіць яе можна, скарыстаўшы з дзяржаўнага, нізкапрацэнтаванага крэдыту. Гэтае самае адносіцца і да набыцця сельскагаспадарчых машын і дэфіцытных будаўнічых матэрыялаў. Кандыдатам у гаспадары гарантуецца першынство ў афармленні гэтых пакупак.

Шчыра кажучы, я з недаверам прыслухоўваўся да ўсіх гэтых прапаноў і намераў. Пры маёй памяці ўжо не адзін раз ваяводская наша ўлада бралася за праблему ўладкавання гаспадаркі дзяржаўным фондам зямлі ва ўсходніх раёнах Беласточчыны. Цяпер гэтая праблема набалела ўжо да агульнадзяржаўных размераў. І наш плач над пакінутай карміцелькай нічога нікому не паможа. Тут патрэбны грошы і яшчэ раз грошы! Каб сяк-так уладкаваць гэтыя справы, неабходна да 1990 года выдаць звыш 50 мільярдаў злотых. Гэта ў ніякім выпадку не пад сілу аднаму Беластоцкаму ваяводству.

**Віктар Рудчык**

# СКАЖЫЦЕ ПРАЎДУ, НАЧАЛЬНІК!

Жыхар чыгуначнай Чаромхі Міхась К. прыслаў у рэдакцыю ліст, у якім пісаў: „Звяртаюся з просьбай дапамагчы мне. У мяне вось які клопат. Захацеў я купіць дзялянку зямлі з ПФЗ у Чаромхаўскай гміне. Была такая продаж. Аднак паны з гміны знайшлі іншых кліентаў і перашкаджаюць мне ў куплі. Справа цягнецца амаль год, а гміна ў Чаромсе водзіць мяне за нос. Ваяводская ўправа ў Беластоку адаслала назад рашэнне начальніка гміны, бо ўбачыла несправядлівасць. А нашы ураднікі свядома марудзяць са справай. Праз некалькі месяцаў начальнік гміны паўтарыў сваё рашэнне. І што мне рабіць? Можа хто з рэдакцыі захоча прыехаць і на месцы зацікавіцца справай?“

Рэдакцыя даручыла мне гэты ліст, і я пайшоў яго следам. Начальнік Чаромхаўскай гміны сказаў мне: гэты чалавек толькі пісаў бы скаргі. Хоча нас перахітрыць. Купляе зямлю быццам на гаспадарку, а будзе яе прадаваць на пляцы. А мы павінны дбаць пра грамадскія справы. І таму спрэчную дзялянку зямлі я выключыў ад продажу і хачу прызначыць яе для пабудовы жылых дамоў чыгуначнікам. Ёсць ужо больш дзесяці асоб ахвотных купіць гэтыя пляцы ад гміны. Маё рашэнне падтрымала сельскагаспадарчая камісія гміннай рады і Ваяводская ўправа.

І падаў мне прачытаць службовую паперу.

Гэта было рашэнне ваяводскага геадэта № 70195/126/84 ад 7 кастрычніка 1985 года. У ім гаворыцца, што падтрымліваецца рашэнне начальніка гміны ў справе выключэння з продажу дзялянкі 517/1, якая будзе прызначана „часткова на агародчыкі афіцэрам ВОП, а часткова на замену грунтаў селяніну вёскі Кузава“.

Вось і супярэчнасць паміж словамі начальніка і дакументам. Начальнік казаў, што зямля будзе прызначана пад жылыя дамы і што ўжо нават рыхтуецца перспектыўны план загаспадарання зямлі, а ў пісьме з ваяводства гаворыцца аб нейкіх агародчыках.

Прызнаюся шчыра, я так і не даведаўся, на якія мэты будзе прызначаны кавалачак зямлі, за якую ўсе так змагаюцца.

Сяджу і гавару з Міхасём К. Перада мною горба дакументаў, якія чалавек акуратна складае ў канверт. Вось першае пісьмо з гміны, дзе гаворыцца, што дзялянку 517/1 вылучаюць з камасацыі з увагі на вялікую колькасць ахвотнікаў купіць яе. Потым іншыя паперы, якія даказваюць, што селянін вядзе кантрактацыю ў жывёлагадоўлі. Міхась гаворыць: хацелі квітанцыі з разліку кантрактацыі за 1985 год, калі ласка, занёс ім. За той год я прадаў тры вепрукі і два бычкі ў экстра клас. Ці гэта мала з паўтара гектара зямлі? Запатрабавалі за мінулыя гады. Таксама занёс. А ўсё ж на другі дзень прыслалі мне адмоўнае рашэнне начальніка гміны на пакупку дзялянкі. Я хачу гаспадарыць, прадаўжаць прафесію майго бацькі і дзеда. Жонка таксама з сялянскай сям'і і хоча заняцца жывёлагадоўляй. У нас цяжка з пашай, таму хачу прыкупіць кавалачак зямлі. І тут якраз прадаецца дзялянка за маёй сядзібай. Аднак гміна не дае ходу маёй гаспадарцы.

Праз некалькі дзён я правёў размову з радным ГРН і адначасова старшынёй Гміннага праўлення ЗСЛ Васілём Астапковічам; прэзасам гміннага саюза сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый Алесем Смыкам і старшынёй чаромхаўскай салэцкай рады Станіславам Гібкам. Вось іхнія меркаванні.

Васіль Астапковіч: Міхась К. даказаў дагэтуль, што можа мець дасягненні ў сельскай гаспадарцы. Нам патрэбны такія людзі. І на вясковым сходзе ўсе былі за тое, каб яму прадаць дзялянку, якая знаходзіцца за яго сялібай. Я вельмі здзіўлены, што гміна перашкаджае яму ў пакупцы. Я падтрымліваю сваё рашэнне і вясковага схода, каб прадаць дзялянку Міхасю К.

Алесь Смык: На адным з пасяджэнняў нашага саюза мы

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 6)

# ШЛЯХАМ ГАДОЎ

ка, што ў Ваўкавыску стаяць забойцы Рамана — Войшалк і Таўцівіл. Ён заняў Ваўкавыск, схапіў у палон ды ўзяў на допыты князя ваўкавыскага Глеба, але высветлілася, што Міндоўгавага сына і пляменніка няма ў Ваўкавыску. Тады раз'юшаны Даніла паслаў войскі з ваяводам Міхалам „ваяваць па Зэльве і шукаць іх“, але і там іх не аказалася. Даніла выклікаў з Галіччыны новыя вайсковыя сілы на чале з сынам Львом і свежыя падмацаванні з Халма.

Войска згуртавалася ў Мельніку і ўжо намервалася ісці ваяваць Гарадзенскую зямлю і здабываць Горадню, думаючы, што Войшалк і Таўцівіл там. Але якраз Бурундай з Яцвягіі праз Візну і Дарагічын накіраваўся ў Мельнік, і каралю Данілу не засталося нічога іншага, як гасцінна сустрэць яго.

Такім чынам зніштажальная татарская арда з галіцка-валынскімі войскамі прайшлі па ўсяму заходняму Панароўю і Пабужжу, пакідаючы пасля сябе спустошаныя гарады і сёлы. Тое насельніцтва, якое не паспела зашыцца ў непраходныя багны ды лясную чашчобу, або гінула пад шаблямі, або ў путах ішло ў няволю, пераважна на прадажу на рынках Сярэдняй і Малой Азіі.

Невядома, якой гасцінай ушаноўваў кароль Даніла ханскага цемніка-ваяводу Бурундая ў Мельніку, якія каштоўныя падарункі яму ахвяраваў, колькі ўзятых у няволю ў Мельніцкай, Берасцейскай, Ваўкавыскай, Слонімскай землях беларускіх дзяўчат і юнакоў аддаў Бурундаю і яго прыбліжаным, якія крэпасці па татарскаму загаду спаліў і раскапаў (мабыць, тады загінулі крэпасці ля вытокаў рэчкі Пульвы, каля сённяшніх Бранска, Нарвы і іншыя).

Абязлюдненае, абрабаванае, выпаленае Пабужжа і Панароўе доўга залечвала раны, нанесеныя ардой Бурундая і падпарадкаванымі татарам войскамі галіцка-валынскіх князёў.

**Мікалай Гайдук**
**Малюнак Ул. Петрука**

і заднімі сценамі прытуляліся да высокай набярэжнай. Такім чынам лёгка было на іх узабрацца. І вось бацька расклаў плахту на даху сваёй хаты і рассыпаў на ёй гэтае збожжа, так цяжка здабытае, каб яно на сонцы добра высахла. А мне ён



загадаў сцерагчы гэты каштоўны скарб. Дык ляжу я каля збожжа, з прыемнасцю жую зерне падсушанай пшаніцы і мару аб смачных блінах, якія нарыхтуе нам мама з пшанічнай мукі. І тады за нашай горкай загудзеў нейкі параход, але гэты гудок быў для мяне зусім чужы, невядомы, іншы ад тых, да якіх я прывык, болей пранізлівы. Татарынавы хлапчукі кінуліся бягом на горку, каб прывітаць гасцей, а я з жалем паглядзеў на бацькаву пшаніцу і астаўся на месцы. Неўзабаве ад рэчкі раздаўся пранізлівы свіст і... далей я ўжо нічога не памятаў... Штосьці мяне здзьмухнула з даху нашай хаты, разам з бацькавай пшаніцай. Толькі пазней я даведаўся, што наш горад Чыстопаль абстралялі з рэчкі нейкія кананеркі і мяне яны, мабыць, узялі за назіральніка белых, бо аж два снарады пусцілі ў бок нашай хаты. Адзін разарваўся ля самай хаты суседа-татарына, а другі крыху далей...

Гэтыя снарады аднавясцілі Чыстопалю прыход Савецкай улады, быццам рэхам адгукнуўся тут стрэл „Аўроры“ ў Пецярбургу. Таксама параходамі ў гэты ж дзень наплылі ў Чыстопаль чырвонагвардзейскія рэвалюцыйныя атрады. Толькі ўладзе Саветаў не хапіла тады яшчэ сіл, каб замацавацца ў гэтым горадзе на Каме. У мяне, на жаль, няма болей дакладных дакументальных звестак аб падзеях таго часу ў Чыстопалі. Ведаю затое, што ў жніўні 1918 года губернскую Казань зноў заняла белагвардзейская армія і некалькі месяцаў трымала яе ў сваіх руках. Белагвардзейскія афіцэры помсцілі ўсім, каго западозрылі ў сімпатыі бальшавікам.

— Трудна было ў чым-колечы разабрацца, — кажа дзед Антон. — Адзін дзень — вітаюць „хлебам і соллю“ нейкіх белых

(Працяг на стар. 8)

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Віктар Канахін

## НЕЗГАВОРЛІВЫ КОЛЯ

Коля сумаваў на ўроках, на перапынках, пасля ўрокаў.

Яму казалі:

— Хадзі ў бібліятэку. Новыя кніжкі прывезлі!

— А-а-а... — адмахваўся Коля. — У мяне іх у хаце поўна.

— Хадзі ў спартыўную залу. У мяч пагуляем.

— А-а-а... У мяне побач з домам стадыён.

Яго пыталіся:

— Пойдзеш з намі ў кіно?

— Не... Па тэлевізары пакажуць.

Тады сказалі:

— Прыдумай сабе сам занятак!

— Яшчэ чаго!

Ну і характар! Як такому ўпартаму чалавеку памагчы? Ён з-за свайго характару проста ходзячы спіць.

І тут у клас прыйшоў новы хлопчык — Юрка. Ён панаглядаў за Колем, хітра ўсміхнуўся і паабяцаў:

— Я разрушаю вашага сплюха!

Дзеці засмяяліся:

— Глядзі, каб разам з ім не заснуў!

Юрка сеў за адну парту з Колем. Пачаўся перапынак.

— Зараз усе пабягуць у спартыўную залу, — кажа Юрка, — а мы давай пасядзім, пагаворым.

— Увесь перапынак? Аб чым гаварыць?

І што вы думаеце, пайшоў у спартыўную залу.

На наступным перапынку Юрка кажа:

— Нейкія кніжкі прывезлі ў бібліятэку. Я асабіста не пайду.

— Табе не трэба, а мне трэба — заяўляе Коля.

Пайшоў і ўзяў сабе аж пяць кніжак! Бібліятэкарка здзівілася: „Ён жа ані разу ў бібліятэку не прыходзіў!“

Вось, значыць, як з Колем размаўляць трэба.



Удзельніцы сёлетняга дэкламатарскага конкурсу са Старога Ляўкова.
Фота Я. Чэрнякевіч.



Сцэнка з п'есы, прадстаўленай на конкурсе тэатральных калектываў школы з Пашкоўшчыны. Калектыў заняў трэцяе месца.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Станіслаў Шушкевіч

## ЗАЙЧЫК ВУШКІ ПРАСТУДЗІЎ

Зайчык вушкі прастудзіў,
Закладае вату.
Каля лесу заблудзіўся,
Ледзь прыплёўся ў хату.

Рукавічкі пагубляў,
І прыбег без шапкі,
Снежкі часта ён шпурляў,
Адубелі лапкі.

Ён казаў, што лёд крышыў,
Прамачыў валёнкі,
Клаў у роцік ледзяшы,
Піў ваду з палонкі.

## СЕДЗЕНЬ

Седзень седнем сядзіць
І на саначкі глядзіць.
Пасінеў кірпаты нос
Хоць бы хлопца хто падвёз!

Седзень, седзень, падурэй,
Ручкі леныя пагрэй!
Седзень седнем сядзіць —
Ці то дрэмле, ці то спіць?

### ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Ул. Разумневіч

## ДВОЕ Ў АКІЯНЕ

Дождж пакінуў пасля сябе дзве лужыны ў двары. Адна — большая і празрыстая, другая — маленькая і цёмная.

Цімох, вядома, выбраў тую, што большая. У ёй грала сонца. Цімох пусціў караблік і закрычаў:

— Гэта мая лужына!

Яму раптам здалося, што ён марак, а пад нагамі ў яго — мора.

Казіку было зайздросна. Ён агледзеўся: ці няма дзе яшчэ мора. Такога ў двары больш не было. Ён цяжка ўздыхнуў і палез у маленькую лужыну. Дно яе Казік паглыбіў маленькай лапаткай. Лужына ад гэтага зрабілася яшчэ меншай.

— У мяне мора, — пахваліўся Цімох. — А ў цябе нават мой карабель не змесціцца.

— Затое ў мяне глыбейшае, — сказаў Казік. — Пушчу падводную лодку.

— Як ты пусціш? Вада цёмная.

— Вось і добра. У цёмнай вадзе падводную лодку ніхто не ўбачыць. А яна як вынырне!

Яны сталі адзін супраць другога. Кожны ў сваёй лужыне. Цімох не ведаў, што адказаць сябру.

— Трэба аб'ядноўвацца, — нечакана запрапанаваў Казік. — Нельга нам жыць у розных морах. У адно трэба. Разам мы будзем сільнейшыя.

— А як?

— Будзем капаць канал. Ты будзеш капаць у мой бок, а я — у твой.

І яны пачалі капаць зямлю. Казік — лапаткай, Цімох — палкай.

Два каналы павольнымі ручайкамі пацяклі насустрач адзін другому. І хутка яны спаткаліся.

— Ура! — крыкнуў Казік і замахаў лапаткай.

— Ура! — падхапіў Цімох і пусціў па канале караблік. — Плыві да майго сябра!

Караблік плыў лёгка і хутка, таму што цячэнне несла яго ўніз.

Караблік увайшоў у Казікава мора. Туды ж уцякло і ўсё Цімохава мора. З двух мораў утварыўся адзін акіян.

Сябры сталі цяпер, узяўшыся за рукі, і цешыліся маленькім караблікам, які плыў на хвалях вялікага акіяна. Гэты акіян належыў цяпер да іх абодвух.



## З першага погляду

Цяпер я веру ў каханне з першага погляду. Як толькі ўбачыў яе, я зразумеў — гэта ўсё! Маё шчасце, мая мара, маё будучае! Яна — сама дасканаласць! Усе бачылі Венеру Мілоскую? Дык вось, яна тая ж Венера, толькі з рукамі. Тонкімі, вытанчанымі, ласкавымі. А якія вочы, а губы, а валасы!

Я самы шчаслівы чалавек на свеце, прычым назаўсёды! І ніякія перашкоды, ніякія жыццёвыя буры не змогуць нас разлучыць.

І няважна, што ў яе, магчыма, няма машыны ці асобнай кватэры. А наадварот ёсць маці, тата і шмат сваякоў. Гэта ніколі не зменіць маіх да яе адносін. Я буду насіць яе на руках увесь свабодны час. Я буду ўдзячны ёй толькі за тое, што яна ёсць! А якія ў нас будуць дзеці! Прычым не адно, а трое ці нават чацвёра — цотная лічба лепш.

І неўзабаве... яна выйшла на прыпынку. Выйшла з тралейбуса, не сказаўшы мне нават „да пабачэння". А як жа мае мары, мае пачуцці? Як можна так лёгка, ходзячы растаптаць усё самае дарагое? Так, мы не былі знаёмыя, але маглі быць! Не ведаю... Вось увайшла і села на тое ж месца іншая... Вясёлая, стройная... Не, гэта не зусім тая, але... здаецца я ўсё ж такі веру ў вялікае і чыстае першае пачуццё!

**А. Аляксейчык**



Перакур.



З чаго смяюцца суседзі.




— Кім бы вы хацелі лічыцца на нашым заводзе?

### ЗАГАВАРЫЎ

Да шасці гадзікаў маленькі Янычка яшчэ не вымавіў ніводнага слова. Бацькі лічылі яго нямым. Але аднойчы за снеданнем ён раптам сказаў:

— Трэба быць больш уважлівай, мама! Ты забыла палажыць цукар у кашу!

Бацька анямеў ад здзіўлення, маці заплакала ад шчасця.

— Сыночак, чаму ж ты раней нічога не гаварыў? — спытала яна, крыху апамятаўшыся.

— Раней скардзіцца не было на што.

### ДЗІЎНЫ ТЭЛЕФОН

Доктар Знахарук расказвае сваім калегам:

— Уявіце сабе, сёння ў тры гадзіны ночы раздаецца тэлефонны званок. Знімаю трубку, і нейкі мужчына заяўляе, што памрэ, калі я не прыду. Я спытаў у пацыента адрас, але ў гэты момант жонка сказала, што званілі, відаць, ёй...

### АДКРЫЦЦЁ

Маладая жонка скардзіцца сваёй сяброўцы, што яе муж п'е.

— Калі ты ведала, што ён п'е, — здзіўляецца сяброўка, — навошта ж ты за яго выходзіла?

— Я ўяўлення не мела, што ён п'е. І раптам аднойчы ён прыйшоў дадому цвярозы!

Яго так насілі на руках, што ён зусім развучыўся хадзіць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Старшыня адстаючага калгаса напярэдадні справаздачна-выбарчага сходу расказвае свайму намесніку:

— Слухай, Сцяпан Іванавіч, снілася мне сёння ноччу рыба. Што б яно значыла?

— А гэта вельмі проста адгадваецца...

— Як менавіта?

— А так, што абавязкова пакажуць, дзе ракі зімуюць.

☆

У невялікім амерыканскім горадзе хірург мясцовай бальніцы пытае ўласніка магазіна:

— Колькі вы прадалі матацыклаў у гэтым месяцы?

— Дваццаць штук.

— Цікава, куды ж дзеліся яшчэ тры?

☆

— Прабачце, але ваш твар мне здаецца знаёмым...

— Магчыма. Я трыццаць гадоў быў наглядчыкам за вязнямі.

### МОДНЫ ХЛОПЕЦ

Вось дык хлопец —
заглядзенне.
А прычоска! А адзенне!
Дзве спадніцы — калашыны.
Валасы, нібы ў дзяўчыны.
Мазалёў не знаюць рукі.
Не ахвочы да навукі.
— А навошта многа ведаць?
Барада нібыта ў дзеда.
Чым займаецца? Што робіць?
Чарка, гулі — яго хобі.
Вось дык хлопец —
заглядзенне.
Дзе ж тваё, скажы,
Сумленне?

**Паўлюк Пранўза**

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### ФЕНАМЕНАЛЬНЫ ШТОК

„Таварыш Лабовіч мае звычай піць спіртное да таго часу, пакуль не працвярэзіцца, чым і ганьбіць наш калектыў".

(З прамовы на прафсходзе).

#### ДЛЯ ДОМУ, ДЛЯ СЯМ'І

Рукі лепш за ўсё мыць вадой з мылам.







— Як хутка папаўнела наша дырэктарша.



## Курёзы

### УНУЧКА ПІЯ XII

У Італіі выйшаў новы фільм, густа аздоблены любоўнымі кадрамі, і на іх знята ў ролі палюбоўніцы ў адкрыта эратычных позах унучка былога папы рымскага Пія XII Арнелі Пацэлі. Арнелі аказалася знакамітай не толькі сваім паходжаннем.

Арнелі вырашыла парваць з сям'ёй і 16-гадовай дзяўчынай пакінула дом — збегла з вачэй родзічаў, каб зрабіцца артысткай. Яна пачала здымацца на крыклівых адкрытых фотаздымках для папулярных коміксаў, пасля пазіравала для больш рызыкоўных кадраў, на якіх улюбёныя пары горача абдымаліся і цалаваліся. А калі спецыялісты экрана заўважылі ў яе ў гэтых адносінах адпаведны „талент", то яе сталі запрашаць здымацца ў кіно. Зараз дваццацічатырохгадовая Арнелі атрымала ролю, аб якой раней і марыць не магла і дзеля якой гатова здымацца ў любым выглядзе.

Багабаязныя суайчыннікі гнеўна асуджаюць неразборлівую і лёгкадумную ўнучку папы Пія XII: маўляў, яна з такой дабрачыннай сям'і, што не можа, не мае ніякага права з'яўляцца на экране голай. Яны патрабавалі ад пастаноўшчыкаў кіно і выдаўцоў адкрытых коміксаў парваць з ёю кантракты. І што ж, спецыялісты па голай натуры спалохаліся, скасавалі свае пагадненні з Арнелі. А вось кінарэжысёр Марко Таніата заўпарціўся.

Ва ўсялякім выпадку, нягледзячы на гэты скандал, а дакладней сказаць, дзякуючы яму, папулярнасць Арнелі ў свеце кіно расце. Яна гэтым задаволена і спадзяецца адваяваць для сябе салідную ролю ў тэлевізійным серыяле.




**Дурань небяспечны не столькі дурасцю, колькі пачаткамі розуму.**